

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 1 27 красавіка 1994 г.


## ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ДУБІНКІ

**Інфармацыйныя дубінкі абрынуліся на галовы юбіляраў Васіля Быкава і Зянона Пазняка. Незалежную газету "Выбар" забаранілі. Што ж так напужала кандыдата ў Прэзідэнты Кебіча? Чытайце матэрыялы ў першым нумары, які выйшаў тыражом 999 экз.**

Рэдакцыя паведамляе, што ў сувязі са зборам подпісаў у падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА наступны нумар запланавана выдаць пасля 15 траўня гэтага года.

Подпісы будуць збірацца з 25 красавіка па 13 траўня 1994 года.

У памяшканні рэдакцыі (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх, пакой 34) штодзень з 9-00 да 19-00 можна будзе паставіць подпіс у падтрымку З. Пазьняка.

З пытаннямі звяртацца па тэл. 37-28-44, 37-35-06.

ПАВАЖАНЫЯ ВЫБАРШЧЫКІ! КАЛІ ВЫ СТАМІЛІСЯ АД ЗЛАЧЫННАЙ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ, ТО, КАЛІ ЛАСКА, ЗАХОДЗЬЦЕ Ў ГЭТЫЯ ДНІ ДА НАС.

**25 красавіка пачынаецца збор подпісаў па вылучэнню кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.**

Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне» прапаноўвае грамадзянам Беларусі вылучыць шляхам збору 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь старшыню Беларускага Народнага Фронта Зянона ПАЗЬНЯКА.

Дзеля гэтага створана ініцыятыўная група (больш за дзве тысячы чалавек) зборшчыкаў подпісаў.

У Віцебску гэтай справай будуць займацца больш за паўсотні членаў ініцыятыўнай групы. Кожны грамадзянін Беларусі, дасягнуўшы 18-гадовага ўзросту, можа паставіць свой подпіс у падпісным лісце за кожнага прапанаванага яму кандыдата, але толькі адзін раз за аднаго і таго ж.

У лістах для подпісаў у падтрымку кандыдата патрэбна ўказаць сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, чысло, месяц і год нараджэння, адрас жыхарства па месцы прапіскі, серыю і нумар пашпарта, дату падпісання і ўласнаручны подпіс.

Ініцыятыўная група па вылучэнню кандыдатам у Прэзідэнты Зянона Пазьняка будзе збіраць подпісы шляхам абходу кватэр з 25 красавіка па 13 траўня. Акрамя таго, будуць выстаўляцца пікеты ў людных месцах горада. Паставіць свой подпіс у падтрымку Зянона Пазьняка таксама можна ў памяшканні рэдакцыі газеты «Выбар», вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх. **Тэлефоны для даведак: 37-35-06, 37-28-44.**

У. ПЛЕШЧАНКА.

## Вылучаны ў выбарчыя камісіі

Утвараюцца камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У Кастрычніцкую раённую г. Віцебска камісію вылучана А. Кастэнка, у Першамайскую раённую—А. Букавец. За кожнага з іх сабрана сярод выбаршчыкаў гэтых раёнаў больш 50 подпісаў. Працоўны калектыў вылучыў у Чыгуначную раённую камісію У. Слабіна, у абласную—І. Швайнштэйна.

У абласную камісію шляхам збору больш ста подпісаў вылучаны таксама Б. Мацвееў.

Ул. Інф.

## ПАВАЖАНЫЯ ВІЦЯБЛЯНЕ!

У 1-м гуманітарным нумары «Выбара» мы задалі пытанні дэпутатам гарсавета. У прыватнасці, мы запыталіся, чаму яны не вяртаюць нам з вамі маёмасць, прыхватызаваную з дапамогай Федарчука-Лапінскага.

Адказу мы так і не дачакаліся. Хутка мы з вамі атрымаем ваўчары. Дык ведайце, што гэтыя ваўчары «аблегчаны» мясцовай савецкай уладай. А дэпутаты гарсавета, якіх мы выбіралі, маўчаць. Можа, яны ў гэтым зацікаўлены? Давайце разам падумаем, як вярнуць гэтую маёмасць вам, вашым дзецям, унукам. Давайце вырашым, што рабіць з нашымі дэпутатамі, з мясцовай савецкай уладай ды з камуністамі, што падтрымліваюць тых, хто нас робіць жабракамі.

**Тэлефануйце 37-28-44.**

У. ПАДГОЛ.

## В. Кебіч: «Я не хочу быть Президентом!»

Прэзідэнцкая гонка выдасць нам яшчэ нямала нечаканых адкрыццяў кандыдатаў на гэту пасаду. Але першым будзе запатэнтаваны перл Вячаслава Кебіча. Пан Кебіч не жадае быць Прэзідэнтам, але на яго паставіла наменклатура: саўмінаўская, савецкая, вытворчая, і яго абавязак—абараніць яе інтарэсы. Сціпла і сярдзіта. Чэсна і вычарпальна.

Жыхары Беларусі спаўна адчулі на сабе вынікі дзейнасці хаўруса пана Кебіча—вялікага спецыяліста каманднa-адміністратыўнай сістэмы. Зрабіўшы галоўную справу свайго жыцця—падпісаўшы падпарадкаванне Нацыянальнага Банка Беларусі Цэнтрабанку Расіі, кастрыраваўшы ўласную грашовую сістэму, пан Кебіч вырашае ў вольны час атрымаць пасаду Прэзідэнта. Але ў такім выпадку, пасля завяршэння галоўнай справы жыцця, лепш за ўсё ісці на пенсію, пісаць мемуары, а не ўзвальваць цяжар прэзідэнцтва. Тым больш, калі дзеянні наменклатуры накіраваны на разбурэнне грамадскай супольнасці, продаж беларускай дзяржаўнасці.

Ганебна мець Прэзідэнта, які здраджвае дзяржаўным інтарэсам Беларусі. Няхай выканаецца жаданне пана Кебіча не быць Прэзідэнтам Беларусі. Гэта будзе на карысць і грамадству, і Беларусі.

Мікола ГАРАДОЦКІ.

P. S. У армянскага радыё спыталі: «Якая мова самая цяжкая?»—«Беларуская. Прэм'ер-міністр Беларусі чатыры гады вывучае мову і ўсё не здольны ёй карыстацца».




Адна з апошніх беларускіх марак, звязанных з Віцебшчынай.

## Пры падазрэнні—знішчыць

У газеце «Народнае слова» за 14 красавіка змешчаны невялікі артыкул В. Андрэевай. «Да выбараў першага прэзідэнта Беларусі».

Гаворка ў ім ідзе аб тым, што намеснік старшыні абласнога Савета З. Крот і галоўны спецыяліст аддзела мясцовых Саветаў, арганізацыйнай і кадравай работы аблвыканкама В. Кастальцоў сустрэліся з журналістамі, каб расказаць аб перадвыбарных мерапрыемствах, прадугледжаных законам аб выбарах прэзідэнта.

Гэты апублікаваны матэрыял не быў бы варты нашай увагі, калі б не фраза, надрукаваная у сярэдзіне тэкста: «Ініцыятыўным групам, якія 25 красавіка пачнуць збіраць подпісы, трэба мець на ўвазе, што любое падазрэнне на фальсіфікацыю ў падпісным лісце дае права выбарчай камісіі ануляваць яго цалкам» (пераклад на беларускую мову—рэд.).

У рускай мове ёсць вельмі добрае слова, якое цалкам падыходзіць да прыведзенай фразы—«ахинея». Ні ў адной цывілізаванай краіне няма такога права, няма дарэчы, такога артыкула і ў нашым заканадаўстве. Праўда, гэта не датычыцца Віцебшчыны. Тут свае правілы. Цікава, як будзе вызначацца падазронасць у падпісным лісце? Па шырыні і вышыні выведзеных зборшчыкам літар? Па каліграфічнасці почырка? А чым будуць вызначацца параметры літар? Цыркулем ці лінейкай? А калі пішаш, як курыца лапай, тады што? Або напрыклад, літары «П» і «Х» у словах, што стаяць побач, будуць выведзены з розным націскам, што тады рабіць з падазрэннем? А калі ў некаторых сяброў выбарчай камісіі ў залежнасці ад узроўню іх выхавання, гэтыя літары выклічуць непрыстойныя асацыяцыі, ці паўплывае гэта на падазрэнне? Можа, сэнс гэтых літар тлумачыць асобна, у заўвагах?

А раптам зборшчык подпісаў па перакананнях дэмакрат, або, скажам, не беларус, а габрэй, як гэта адлюструецца на падазрэнні?. Яно павялічыцца? Да якога ўзроўню? Ці хопіць санкцый у артыкуле закона, каб пакараць падазронага?

Паважаны чытач! Нам вельмі пашанцавала нарадзіцца ў падазронай краіне, жыць пры падазронай уладзе, прысягаць у любві падазронай партыі, якая сфарміравалася ва ўмовах глыбокага падполля, выконваць падазроныя законы. Калі толькі за адно падазрэнне высылалі з краіны,змяшчалі ў ГУЛАГ і ставілі да сцяны, расстрэльваючы з сапраўднага пісталета, сапраўднымі кулямі, выпускаючы сапраўдную кроў.

Усё гэта падазронае асяроддзе на працягу многіх дзесяцігоддзяў ператварыла нас у падазроных людзей. Можаце сабе ўявіць, што кожны дзень вакол кожнага з нас мітусяцца падазроныя тыпы і задаюць падазроныя пытанні. Падазрэнне глыбока сядзіць у нашых душах. Так што, дэмакраты, у час збору подпісаў будзьце напагатове.

Заўсёды ваш **Барыс Хамайда.**

**P. S.** Ёсць такі анекдот: «Вовачка запытаўся ў маці, якое самае галоўнае слова з трох літар. Маці пакарала сына, а ён пабег скардзіцца бацьку. Той спытаў: «А што ты меў на ўвазе?»—«Дом,—адказаў Вовачка.—Есці хочацца, а маці ў ложку ляжыць!» Тата пабег да маці і стаў лупцаваць яе, прыгаворваючы: «Пра дом думаць трэба...» Пакуль вас, прадстаўнікі «савецкай улады», не напаткаў лёс «мамы», раім думаць аб ДОМЕ—нашым Віцебску, аб парадку і законнасці ў ім, а ўсялякія падазроныя слоўцы выкіньце з галавы.

У. ПАДГОЛ.

## МАНКУРТЫ

Яны стагоддзі балявалі
І затыкалі Праўдзе рот.
Усё жыццё яны плявалі
На нашу Мову і Народ.

Каб распазнаць іх нораў дзікі
Не трэба ехаць у чыйсьці стан.
Вунь! Вунь яны бягуць ў абдымкі
К суседу, аж трашчыць паркан.

АНАТОЛЬ КАРЧЭЎСКІ

10 лютага 1994 г.

1). У рэдкалектыва "Чорнай кнігі" шмат пазаштатных супрацоўнікаў, якія знаходзяцца на адказных і ўплывовых пасадах у органах улады. Адзін з іх перадаў газеце гэты дакумент.

**Прокурору Витебской области**
**т. Шахметову Н. С.**
**от 1.03.94 № 02-14/77**

Хозяйственный суд Витебской области своими решениями от 04.08.93 (дело № 91-4) и от 07.07.93 (дело № 68-4) усмотрел экономический ущерб в сумме свыше 3 млн. рублей горсовету при продаже торгового центра (универсам, ресторан) Витебскому торговому предприятию «Веста», арендному предприятию «Витмил» и свыше 4 млн. рублей при продаже ПП «Витебсквнешстрой» выбывшего из жилого фонда здания по ул. 2-я Фрунзе, 4...

...Основываясь на этих решениях хозяйственного суда в последнее время в прессе (в частности, газета «Выбор») объявляются **чуть ли не преступниками** (тут і далей азначаны рэд.) бывший председатель горсовета, народный депутат Республики Беларусь, заместитель председателя облисполкома Н. **Федорчук** и первый заместитель председателя горисполкома, депутат облсовета **В. Лапинский.**

Более того, газетой «Выбор» вся структура власти города объявлена **«злачыннай».**

В связи с этим считаю, что горсовет сделал ошибку, не доведя данные дела в хозяйственном суде **до правильных результатов,** и прошу опротестовать вышеуказанные решения.

**С уважением**
**Председатель горсовета**
**В. Неушев.**

Наколькі нам вядома, гэтыя рашэнні яшчэ не апратэставаны. Магчыма, пракуратура на працягу аднаго з паловай месяца не можа зразумець фразы «...до правильных результатов...» Шчыра кажучы, і мы не разумеем, які сэнс укладваў у гэтыя словы Валеры Мікалаевіч. Да законных вынікаў—зразумела, да аб'ектыўных вынікаў—ясна, да лагічных вынікаў—таксама ўсё ў парадку, але да правільных вынікаў...

Мы звярнуліся за тлумачэннем у камісію па заканадаўству Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

# Невядомы Пазьняк

***Шмат хто з чытачоў, што прачытаюць да канца артыкул, захочуць задаць пытанні: чаму менавіта «невядомы Пазьняк»? Чаму звычайныя факты з жыцця Пазьняка невядомы шырокаму колу чытачоў? Справа ў тым, што ён надзвычай сціплы чалавек. Акрамя гэтага, для кіраўнікоў рэспублікі дзейнасць Пазьняка—пагроза іх уладзе, таму яны ілгуць, робяць паклёпы на ягоную дзейнасць і жыццё.***

***Аўтару гэтага артыкула пашчасціла выслухаць маці Пазьняка...***

Што аб'ядноўвае гэтых розных па ўзросту і прафесіях людзей—Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава і Народнага дэпутата Беларусі Зянона Пазьняка? Якія нябачныя сілы прыцягваюць мудраца—гонар нацыі, і таленавітага палітыка—надзею Беларусі? Яны даволі часта сустракаюцца і вядуць нетаропкую гутарку. Галоўная тэма іх размоў, боль іх душы—лёс Радзімы. Лёс мільёнаў людзей, якія пакутуюць на гэтай зямлі. Лёс жывых хвалюе іх, як і лёс тых, хто загінуў за шчаслівае жыццё нашчадкаў, але так і не атрымаў ні годнай памяці, ні ўшанавання. Іх хвалюе лёс і тых, хто не нарадзіўся. Якая зямля чакае сыноў і дачок Беларусі XXI стагоддзя? Няўжо яна ўся—суцэльная чарнобыльская смяротная пляма, што распаўзаецца нябачнаю пачвараю па цудоўных прыгожых абшарах? «Хвалюе і тое,—кажа Быкаў,—што духоўны Чарнобыль паўзе па душах людзей».

Яны—незвычайныя юбіляры, і гэта аб'ядноўвае іх. Быкаву спаўняецца 70. Пазьняку--50 год. Быкаў нарадзіўся на Віцебшчыне, Пазьняк—на Гродзеншчыне, але абодва лічаць, што зямля родная ў іх адна, агульная.

Кожны з іх нараджаўся некалькі разоў. Маладзенькі лейтэнант Быкаў для баявых сяброў пахаваны быў у брацкай магіле пад Кіравагардам. Маці ўручылі афіцыйную пахавальную. «А я быў проста паранены»,—расказвае Быкаў.

Першы раз Пазьняк ледзь не загінуў, яшчэ не з'явіўшыся на свет. У мястэчка Суботнікі, дзе жыла маці Зянона, прыйшлі фашысты і падпалілі яе хату. Ксёндз схаваў маці Зянона і яе суседак у склепе касцёла. Гітлераўцы ламіліся ў касцёл, узарвалі гранату пад дзвярыма, але дзверы вытрымалі, выратаваўшы сялянкам жыццё.

Другі раз лёс падараваў жыццё, калі прыслужнік фашыстаў прыставіў пісталет да жывата цяжарнае маці, але не стрэліў.

Бог даў хлопчыку шанс з'явіцца на свет, і ён нарадзіўся 24 красавіка 1944 года. І быў ахрышчаны ў мясцовым касцёле.

А праз 5 месяцаў загінуў яго бацька, які ваяваў у разведцы. Выззалялі Катавіцы, дзе і загінула ўся разведгрупа.

Лёс Пазьняка—гэта лёс амаль кожнай сям'і на Беларусі. Дзядзька Янак ваяваў з гітлераўцамі з 1941 года як камандзір танка, а ў 1945 годзе ва Ўсходняй Прусіі ў танк трапіў снарад, з полымя выскачылі падначаленыя, а ён, як сапраўдны камандзір, ратаваўся апошнім і загінуў. Другога сваяка—дзядзьку Яську фашысты вывезлі ў Германію, дзе і знішчылі. Так і засталіся яны з маці ўдвух. Маці на ўсё жыццё зберагла вернасць каханаму мужу, мужнаму воіну—адна выхавала сына.

Гэтая вернасць і любоў як спадчына перайшла Зянону. Немагчыма было не любіць зямлю, за якую загінулі бацька і дзядзькі. «А любіць—гэта значыць ведаць тайну аблічча любімай,—кажа Пазьняк.—Ведаць і бачыць тое, што ніхто не бачыць і не ведае. Менавіта так лічыў вялікі рускі філосаф Бярдзяеў. І я з ім згодны».

Вось чаму гісторыя Беларусі ўсё мацней і мацней прыцягвала Зянона, пакуль не захапіла цалкам. Ён браў удзел у раскопках у розных кутках Беларусі. Дакопваўся да пластоў сярэднявечча, даследаваў тагачаснае жыццё. А галоўныя тайны ляжалі побач, у 30-х гадах нашага стагоддзя, пад Мінскам, у Курапатах. І калі ён спасцігнуў гэтую таямніцу, жах ахапіў



Фота Уладзімера Кармілкіна.

яго. Як магло такое здарыцца?! Пакутлівыя пытанні. Людзі, якіх нарадзіла адна зямля, падзяліліся: адны сталі ахвярамі, другія—катамі. Як можна страляць у нявінных? Што за чума апанавала народ, ператварыўшы частку яго ў нелюдзей? Штурхала на вар'яцкія ўчынкі ілжывая ідэалогія. Згодна з ёй людзей вялі да светлай будучыні, высцілаючы касцьмі і чарапамі шлях. Выбівалі мазгі з самых светлых галоў, ламалі рукі самым працавітым сялянам. Вось дзе была разгадка, і гэтая разгадка аб'ядноўвала Быкава і Пазьняка.

Юнацкая душа Пазьняка не магла спакойна суіснаваць з фальшывай мараллю і ідэалогіяй: яго некалькі разоў выключалі са школы за бунт супраць ілжы і фальшу. Яго некалькі разоў выключалі з інстытута. Таму што казаў праўду, тое, што думаў.

Нават дысертацыю не далі абараніць на Беларусі, і дзякуючы шматлікім сябрам—сапраўдным навукоўцам з Расіі—ён бліскуча абараніў вынікі сваіх навуковых даследаванняў у Ленінградзе.

Горкая іронія шматпакутнай зямлі. Праўду пра Радзіму—не простае меркаванне, а навукова абгрунтаванаю, не давалі выказаць дома, яна гучала з Расіі. Дзякуючы рускім сябрам Быкава і Пазьняка.

Што агульнага ў гэтых людзей? Іх цесна звязвае праўда, і яны за яе пакутуюць усё жыццё.

Яны лічаць, што ў палітыку нельга гуляць. Адным казаць адно, другім--другое, падладжвацца. Яны ўпэўнены, што людзям заўжды трэба казаць праўду, якой бы горкай яна ні была, і як бы балюча за гэта ні білі. І ў якое б нявыгаднае становішча пры гэтым ні трапіў той, хто шчыра выказваецца.

Творы Быкава—пра ісціну Вялікай Айчыннай вайны, пра сапраўдных герояў,—радавых народнай арміі—узарвалі фальшывае ідэалагічнае балота афіцыйна дазволенага. Ён пісаў пра тое, як армейскія чэкісты губілі простых салдат, здзекаваліся з верных сыноў Радзімы, робячы ўласную кар'еру, а з сябе—герояў.

Ён пісаў пра простых працаўнікоў, якія, стаўшы салдатамі, на мяжы жыцця і смерці выяўлялі духоўную моц, якая дазваляла ім ахвяраваць сваім жыццём, узвышацца да боскіх вышынь.

За гэтую ягоную праўду, якая ўскалыхнула ўсіх удзельнікаў вайны, усіх грамадзян: не толькі ў Беларусі—ва ўсім свеце, наменклатурная пачвара накінулася на таленавітага пісьменніка, яго кніжкі забаранялі, калечылі цэнзурай, яму пагражалі, ладзілі фізічныя расправы. І калі ўсё гэта не дапамагло, пачалі палівадь брудам, ілгаць, пісаць паклёпы ад імя сялян і рабочых: «Мы гарбаціліся, а яны шкодныя кніжачкі папісваюць». А сёння, калі вось так знішчылі духоўную культуру, на Беларусі раптам завізгатала гідра: «Амаральнасць, разбэшчанасць, маладое пакаленне гіне...»

Што іх звязвае? Тое, што абодва лічаць: сёння прыйшоў час суда. Над ідэалогіяй і мараллю, пабудаванай на хлусні, крывадушнасці, кулях. Пачвара, якая знішчыла беларускую духоўнасць у чалавечых душах, павінна быць асуджана. Без суда не адбудзецца выздараўленне чалавечых душ. Іх звязвае і тое, што лёс і Бог падтрымлівалі гэтых двух сыноў Беларусі дзеля надзвычайнай місіі, бо ведаў Бог пра накаваныя Беларусі выпрабаванні, пра чорную зорку Палын...

70% вынікаў выбуху Чарнобыльскага рэактара—на Беларусі! За што? Не было ў свеце больш камуністычнай рэспублікі! Дык куды ж павінна была зрыгнуць смерць АЭС, пабудаваная датэрмінова да з'езду КПСС? Ні з аднэй нацыяй кіраўніцтва КПБ—КПСС не праводзіла такога жудаснага эксперыменту, як з беларусамі, утвараючы з іх «советский народ», вынішчаючы ўсё нацыянальнае, што толькі і можа ўтрымліваць гэты народ у жыцці, у гэтым свеце. І вось два гэтыя эксперыменты камуністы правялі на Беларусі адначасова. Датэрмінова пабудаваная станцыя з верным ленінцам-дырэктарам засыпала Беларусь атамнай смерцю. А камуністычнае кіраўніцтва Беларусі, у якое ўваходзіў Кебіч, засыпала Беларусь смяротнай хлуснёй, быццам бы небяспекі няма, што дзеткам нават карысна схадзіць 1-га Мая на дэманстрацыю, падыхаць кактэйлем са стронцыю, цэзію, плутонію «камунізмію».

І вось тут, выхаваныя любоўю да Беларусі, за людзей і праўды, узняліся яны, павялі да сабой тых, хто мог і хацеў пачуць, утвараючы з роднасных душ Народны фронт. Тыя дні злучылі іх настолькі, што час ад часу, гледзячы на іх, слухаючы іх размову, думаеш, што так могуць разумець адзін аднаго толькі сын і бацька.

Дзякуючы Быкаву і Пазьняку Беларусь зведала праўду пра смяротную радыяцыйную небяспеку. Узняліся народныя хвалі пратэсту, пачалося выратаванне нацыі. Фронт вывозіў дзяцей з зоны за мяжу, ваяваў за перасяленне, за пакаранне хлуслівых кіраўнікоў. Але не драмала арда чыноўнікаў Кебіча: яны за народныя грошы, выдаткаваныя на будаўніцтва жылля ахвярам ЧАЭС, будавалі сабе катэджы-палацы. На даляры, што зарабілі на заводах рабочыя, на якія неабходна было купіць лекі, жонка Кебіча і чыноўнікі яго ўрада купілі, напрыклад, аправы для акуляраў. І ўсё гэта пад акампанемент «згоды Шушкевіча», які ва ўсім быў згодны з Кебічам!

І зноў Пазьняк уздымаў Фронт на барацьбу з карупцыяй: фронтаўцы правялі скрупулёзныя даследаванні карупцыі. Неабвержна даказалі карумпаванасць сямейнага клана Кебічаў, яго падначаленых. Прымусілі Вярхоўны Савет стварыць камісію па барацьбе з карупцыяй. Але даклад народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, сябра Фронту Антончыка з неабвержнымі доказамі карупцыі да народа так і не быў даведзены. Як калісьці даклад Хрушчова пра жудасныя злачынствы Сталіна супраць свайго народа. Затое Лукашэнку з яго недаследаванымі фактамі рэкламавалі ўсе сродкі масавай інфармацыі. Бо каманда Кебіча наперад пралічыла, што дакументы Народнага фронту абвергнуць немагчыма. І таму іх трэба замоўчваць. А вось дакументы Лукашэнкі—часткова «ліпа», часткова ўжо былі вядомы раней.

Так і «прыхлопнулі» камісію Лукашэнкі, а Пазьняк аддаў распараджэнне працягваць раскрываць карупцыю. «Карупцыянеры павінны сядзець у турме, а не кіраваць дзяржавай. І мы іх пасадзім!»—заявіў Пазьняк.

Што аб'ядноўвае Пазьняка і Быкава? Шанаванне продкаў. Яны ўпэўнены, што народ, які не ведае, не шануе продкаў, загіне.

30 кастрычніка 1988 года Пазьняк павёў людзей на могілкі, каб ушанаваць памяць тых, хто загінуў за вызваленне Беларусі ад фашызму, тых, хто і не пахаваны. Звыш 100 тыс. салдат Вялікай Айчыннай вайны не пахаваныя і па сённяшні дзень. Людзі ішлі шанаваць памяць тых, хто загінуў ад сталінскіх катаў і каго штабялямі звалілі ў ямы нелюдзі. Шлях, на якому вёў Пазьняк аднадумцаў, быў вельмі незвычайным. Гэта быў не проста шлях да продкаў. Тым шляхам Пазьняк адных адводзіў ад страху, другіх вёў ад рабства да свабоды, трэціх—праз ідэалагічны лабірынт да нацыянальнай свядомасці. Адміністрацыйна-інфармацыйны таталітарызм, адчуўшы сваю пагібель, зразумеўшы, што людзі ідуць за Пазьняком, накінуўся з дубінкамі і газам на яго і яго сяброў. Сістэма вельмі спадзявалася, што яны адкажуць ударам на ўдар, але Пазьняк заклікаў сяброў усе свае сілы і волю скіраваць на сябе, стрымаць у сабе агрэсіўнае зло, што так несціць СІСТЭМА. І сталі яны на калені, і родная зямля дала ім моцы, каб стрымацца. Яны дайшлі.

Калі сёння вы, грамадзяне, маеце ў календары святочны дзень, у які можаце паехаць да сваіх продкаў, ведайце: шлях у гэтае свята праклаў для вас Пазьняк са сваімі паплечнікамі. Калі прыйдзеце на могілкі, узДыміце чарку за дзядоў, бацькоў, родных, успомніце: гэты магчымасць рыхтаваў Пазьняк з паплечнікамі. І шлях гэты быў ахутаны слезатачывым газам, перакрыжаваны міліцэйскімі дубінкамі.

Палітыка—дзіўная, незразумелая для большасці з нас справа. Адны ствараюць ГУЛАГі ды зоны і даказваюць пры гэтым, што вядуць чалавецтва да светлае будучыні і справядлівага грамадства. А такія, як Быкаў і Пазьняк, спачатку вядуць чалавека ў глыбіню яго душы, дапамагаюць раскрыць яе таямніцы. Вядуць у глыбіню ягонай гісторыі, а потым раптам чалавек адчувае сябе ЧАЛАВЕКАМ, смуга ідэалагічнай хлусні спадае з яго вачэй, і ён даходзіць сам да простай, геніяльна простай ісціны: вось гэты кавалак зямлі належыць яму і ягоным продкам, і ніхто, акрамя яго, не зробіць гэтую зямлю квітнеючай... І тады, стаўшы, урэшце, відушчым, чалавек разумее, куды яму ісці, дзе свабода, дзе рабства.

Дзякуючы намаганням лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, людзі пачынаюць і бачыць, і разумець. Апошнім часам Пазьняк усё часцей сустракаецца з ветэранамі, удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны. Зянон Станіслававіч вырашыў не святкаваць свой юбілей асобна, а адзначыць яго разам з 50-годдзем Перамогі. Такі ўжо лёс ягоны. Пяць дзесяткаў год, як загінуў бацька ў разведцы боем—гэта для Зянона і смутак, і гонар. І, як спяваецца, «радость со слезами на глазах». Гэты незвычайны юбілей невыпадковы. Такое ягонае жыццё, у якім уласнае, асабістае непарыўна звязана з лёсам Беларусі. А любіць—значыць імкнуцца да абсалютнага зліцця з любімай. Пасля сустрэч Пазьняка з ветэранамі ўсё часцей даводзіцца чуць: «Дык ён жа зусім не такі, як нам яго падаюць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі! Вось гэта мужык! Дык ён жа за ідэю жыццё аддасць!» А камуністы, з якімі даводзілася размаўляць, горка шкадавалі: «Як нам не хапае такога лідэра,як Пазьняк—аддана ідэі і таленавітага палітыка!» Ягонае жыццё—бясконцая разведка боем, ён увесь час наперадзе. І тое новае, што ён адкрывае для людзей Беларусі, за што спачатку афіцыйная прапаганда б'е яго, праз некаторы час уваходзіць у наша жыццё, робіцца законам ці адроджанай традыцыяй.

Калі вы раптам зойдзеце ў штабкватэру БНФ, то будзеце вельмі здзіўлены. Увесь час там шмат людзей: адны заходзяць, другія выходзяць, нешта абмяркоўваюць. І—цішыня! Больш за ўсё шумяць камп'ютэры. Лепшыя эканамісты, палітолагі, арганізатары распрацоўваюць і карэкціруюць сацыяльна-эканамічныя праграмы развіцця Беларусі. Як і раней да кіраўніцтва не дапускаліся не адданыя камуністычнай ідэі і свайму начальству людзі, і сёння былы камуністычны ЦК, які кіруе рэспублікай на чале з Кебічам і Грыбам, не падпускае таленавітых маладых спецыялістаў да выратавання людзей. І вось усе гэтыя таленты гуртуюцца вакол Зянона Станіслававіча. У іх створана ўнікальная эканамічная праграма, вельмі эфектыўная, як прызнаюць сусветна вядомыя спецыялісты. І ў любы момант гэтыя таленавітыя хлопцы гатовы змяніць эканамічны курс дзяржавы, скіраваць яе ў Еўропу. У той час, як афіцыйная прапаганда плявузгае: «Каму мы патрэбны на Захадзе?», са штаб-кватэры амаль не выходзяць здымачныя групы буйнейшых тэлекампаній свету. Пры мне толькі ад'ехалі японцы, а ўжо прыладжвалі апаратуру амерыканцы з СІ-ЭН-ЭН. Паслы многіх краін свету пастаянна просяць сустрэчы з Пазьняком. І я быў сведкам, калі ён перанёс запланаваную дыпламатычную сустрэчу, бо ехаў на запрашэнню на сустрэчу з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянскі шпіталь.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

(Заканчэнне . Пачатак на 2-й стар.)

По сутнасці, у Мінску дзейнічае паралельная ўлада. На чале з Зянонам Пазьняком. Іх мэта: зрабіць жыццё на Беларусі лепшым, чым у Германіі. Гэта задача № 1. «Нас жа цягнуць у зону, дзе стаяць заводы і фабрыкі, дзе па некалькі месяцаў рабочыя не атрымліваюць зарплату, дзе галоўны герой—мафіёзі! Сённяшняе кіраўніцтва хутка ператворыць Беларусь у канцэнтрацыйны лагер, дзе камандаваць будуць «крымінальнікі», а на «драўляныя» рублі можна будзе купіць міску пахлёбкі»,—лічыць Пазьняк.

Але ж гэта не ўсе разумеюць. Пакуль сярод нас шмат такіх, хто хоча жыць ці пры чарнобыльскім сацыялізме, ці пры ельцынскім капіталізме. Але ці падзякуюць за гэта дзеці?

Ці захочам мы «людзьмі звацца»?

«Захочам!»—упэўнены Пазьняк.—На Беларусі не толькі вельмі працавіты народ, але і мудры. Людзі абавязкова зразумеюць, як ім жыць».

Ёсць і яшчэ ўнікальна агульная рыса ў Пазьняка і Быкава. Яны—стваральнікі. Усе апошнія 76 гадоў на Беларусі панавалі тыя, хто кіраваўся прынцыпам:«весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем мы наш, мы новый мир построим, кто был ничем, тот станет всем». І разбурылі—спачатку законна абраную ўладу, потым працавітых людзей, затым гісторыю і цэрквы, вынішчылі мараль і культуру, а кіраваць паставілі тых, хто ва ўсіх народаў лічыцца «ничем».

Быкаў стварыў сапраўдную гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, Пазьняк даказаў, што Беларусь была такім жа ГУЛАГам, як і той, адкрыты для нас Салжаніцыным. Яны абодва пасадзілі ў наменклатурным запаведніку зерне будучыні, назва якой—квітнеючая Беларусь. І сёння пра гэтую Беларусь, якую аб'ядноўвае Беларускі Народны Фронт, ведае кожны грамадзянін. «Фронт выратаваў людзей ад бяспамяцтва,—кажа Пазьняк.—Фронт выратаваў людзей ад Чарнобыльскай смерці, зараз мы змагаемся з карупцыяй. І галоўнае для нас—каб Беларусь сапраўды стала квітнеючай». Любіць—значыць верыць. Кожную раніцу Пазьняк пачынае з малітвы:

**«Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя тваё, прыйдзі ўладанне тваё, будзь воля твая як на небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння і адпусці нам грахі нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым. І не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амэн».**

І Пазьняк верыць, што Бог прыйдзе на шматпакутную зямлю Беларусі.

**Уладзімір ПАДГОЛ.**

Зянон ПАЗЬНЯК

## ЧАКАЮ БАЦЬКУ З ВАЙНЫ

Я заўсёды чакаў Цябе.
Але ты не прыходзіў.
Вусны мае сьмяглі.
Моцна балела сэрца
І я лічыў кожны яго стук.
Думаючы пра Цябе.
Ах, як павольна цікаў гадзіннік.
Так павольна, што я не вытрымаў і
заснуў.
Зьняможаны ад чаканьня.

Ты прыйшоў да мяне ў сьне
І сказаў казку:
«Раз у тысячу год
Прылятае сінічка да сіняга мора
І пробуе дзюбкай марскую ваду.
Калі сінічка вып'е ўсё мора,
Пройдзе адно імгненьне вечнасьці».
Я прачнуўся. Але Цябе
Не было ні заўтра, ні потым.
Толькі час ляціць, як страла.

1981 г.

«...Пазьняк не саступіў з свае пазіцыі праўды і прынцыповасьці. Як не саступіў ён перад тым у памятны дзень 30 кастрычніка 1988 года ля Усходніх могілак, дзе народ Беларусі ў чарговы раз атрымаў красамоўны адказ на пытаньне: што такое ягоная партыя камуністаў і як яна ставіцца да інтарэсаў народа. Нахабнае мурло яе кіраўніцтва тады пагрозьліва насунулася на і без таго мізэрныя рэштки нацыянальных традыцыяў і паліцэйскаю сілай нанесла нязмыўную зьнявагу народу. І калі справа абышлася без крыві і сьмерцяў, дык у тым найбольшая заслуга менавіта Зянона Пазьняка. Гэта ён у самы крытычны момант сутычкі заклікаў шматтысячны натоўп мінчукоў да спакою і вытрымкі, сілаю аўтарытэту свае асобы засьцярог іх ад правакацыі і павёў за межы Менска ў Курапаты. Не зважаючы на паліцэйскую расправу, на газы і бальшавіцкія «дэмакратызатары», людзі стрывалі ўсё, але не ўступілі ў бойку, не аказалі супраціўленьня. Мусіць, у той момант і ў тых варунках гэта было адзіна правільна. Метад вялікага Гандзі таксама тоіць немалую, а часам і рашаючую сілу».

**(З уступнага слова Васіля Быкава да кнігі «Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча»).**

# Упартасць у ісціне

**У гэтым годзе ўвесь свет будзе адзначаць 125 гадоў з дня нараджэння вялікага мысліцеля і палітычнага дзеяча Махандаса Карамчанда Гандзі.**

Гэты схуднелы стары чалавек, чыё досыць шырока вядомае цяпер аблічча можа выклікаць у чалавека недасведчанага іранічную ўсмешку, прымусіў увесь свет іначай, па-новаму, па-чалавечы паводзіць сябе і ва ўнутранай палітыцы, і ў міжнароднай. Народ назваў яго «Махатмай»—што значыць «вялікая душа», і лічыў святым. Ён быў кіраўніком нацыянальна-вызваленчага руху, які перамог. Перамог і ўціск чужынцаў, і нацыянальны нігілізм, і адсталасць сваёй краіны. Яго перамога праявілася ў тым, што яго праціўнікі і іх нашчадкі паверылі ў яго ісціну.

У наш час, калі мацнее ўражанне, што свет няўмольна саслізгвае ў прорву варажнечы і гвалту, аднолькава знутры і звонку дзяржаўных межаў, ягоны досвед варты ўвагі.

Гандзі нарадзіўся ў правінцыйным горадзе ў Індыі, у вельмі рэлігійнай сям'і. Вучыўся на юрыста ў Англіі, дзе захапіўся тэасофіяй Алены Блавацкай і дзякуючы гэтаму зацікавіўся ўласнай нацыянальнай культурай, пачаў вывучаць індыйскі эпас (тэасофія грунтуецца на індыйскай рэлігійнай філасофіі). Потым на працягу двух дзесяцігоддзяў працаваў у Паўднёвай Афрыцы.

У 1915 годзе ён вяртаецца на Радзіму чалавекам са сваім уласным светапоглядам, выпрабаваным жыццём і працяглай барацьбой супраць дыскрымінацыі індыйскіх імігрантаў у Паўднёвай Афрыцы.

Палітычная канцэпцыя Махатмы Гандзі бярэ пачатак з пастулатаў індуізма, які ён лічыў «пошукам ісціны негвалтоўнымі метадамі», ісціну ён атаясамліваў з Богам, асноўная ўвага надавалася метаду пошукаў ісціны. Сваё вучэнне Гандзі базіраваў на прынцыпе «ахімсы»—не рабіць зла, шкоды, які аб'ядноўвае ў сабе панятці праўды, любові, адмаўлення гвалту. З другога боку, вучэнне Гандзі абапіраецца на маральныя прынцыпы, агульныя для ўсіх народаў і рэлігій, а таксама на традыцыю грамадзянскага непадпарадкавання, якой паклаў пачатак амерыканскі мысліцель Генры Давід Тора, распрацоўвалі далей Дж. Рэскін, А. Швейцар, Леў Талстой. З Талстым Гандзі перапісваўся. Паслядоўнікам Гандзі лічыў сябе вялікі амерыканец Марцін Лютэр Кінг.

Гандзізм сцвярджае, што ісціна належыць усім, а індывідыум, адзін з бакоў, мае права толькі на яе частку. «Следовательно, борьба должна закончиться не уничтожением противника, а синтезом, преодолевающим исходные, крайние позиции каждой из борющихся сторон—вот замечательный образец политической философии, могущий стать основой решения проблем войны и мира в ядерную эпоху» (Горев А. В. Махатма Ганди.—М., 1989, С. 368).

Канкрэтным увасабленнем гандзісцкага светапогляду стала «саціграха». Сама назва нарадзілася ў 1906 годзе. Гандзі не падабалася ранейшая—«пасіўнае супраціўленне», і ён аб'явіў конкурс, у якім перамог ягоны сын Маганлал. Ён прапанаваў слова, утворанае злучэннем двух слоў з мовы гуджараці: «сат»—ісціна і «аграха»—цвёрдасць, упартасць.

Саціграха мела дзве формы. Адпаведна сітуацыі выкарыстоўвалася альбо несупрацоўніцтва, альбо грамадзянскае непадпарадкаванне. Несупрацоўніцтва—гэта байкот дзейнасці дзяржавы: ухіленне ад дзяржаўнай і вайсковай службы, адмаўленне ад удзелу ў дзейнасці ўрадавых партый, ад ганаровых тытулаў і пасад, ад навучання ў дзяржаўных навучальных установах, ігнараванне дзяржаўных пазык і да т. п. Грамадзянскае непадпарадкаванне, адрозна ад легальных спосабаў несупрацоўніцтва, уяўляе сабой адкрытае, дэманстратыўнае парушэнне несправядлівых законаў каланіяльнай улады, невыкананне распараджэнняў афіцыйных установ.

Джавахарлал Неру адзначыў, што псіхалагічна ў аснове новага руху ляжалі перш за ўсё пазбаўленне ад страху і сорам: «Произошла и другая психологическая реакция: появилось чувство стыда за наше долгое подчинение иностранному господству, которое отбросило нас назад и унизило нас, и возникло стремление любой ценой избавиться от этого подчинения».

Саціграха аб'ядналa ў сабе лепшыя праявы індывідуалізму (аўтаномная свядомасць чалавека, яго асабістая адказнасць перад сабой і іншымі) з усходнімі традыцыямі абшчыннага калектывізму і дачыненняў паміж асобамі.

Стратэгія і тактыка саціяграхі была накіравана не на знішчэнне праціўніка, а на ліквідацыю канфліктнай сітуацыі, трагічнай невырашальнасці супярэчнасцей паміж праціўнікамі. А гэтым прадугледжвалася ўвасабленне ў жыццё своеасаблівай дыялектыкі мэты і сродкаў. Мэта, на думку Гандзі, нават самая высакародная, самая прывабная, не можа апраўдаць неразборлівасць у сродках яе дасягнення. Няправедныя сродкі, як неаднойчы сцвярджаў Гандзі, ніколі не прывядуць да дасягнення праведнай мэты, пакольку сама гэта мэта ў выніку будзе скажонай да непазнавальнасці. На практыцы Махатма Гандзі прыступаў да арганізацыі кампаніі непадпарадкавання толькі пасля таго, як не давалі вынікаў пошукі кампрамісу. Гэтыя ж прынцыпы нясуць у сабе і неабходнасць самаабмежавання ў выбары сродкаў, адмаўленне эфектыўных на першы погляд метадаў барацьбы, якія прыносяць хуткую перамогу.

Пасля прыходу Гандзі, індыйскі нацыянальны кангрэс становіцца масавым рухам. Масавасць—яшчэ адна ўмова эфектыўнасці саціяграхі. ІНК, па словах Дж. Неру, «стал приобретать характер широкой крестьянской организации с большой прослойкой представителей средних классов».

Індыйскі нацыянальны кангрэс упершыню становіцца сапраўды нацыянальным рухам. Гандзі дэманстратыўна апранаецца толькі ў нацыянальнае адзенне, абавязковым элементам у яго выступленнях, а потым і ў дакументах Кангрэса становіцца прапаганда адраджэння хатняга ткацтва, а калаўрот—чаркха—становіцца пазней сімвалам Індыі і змяшчаецца на дзяржаўным гербе. Гандзі звяртаўся да сваіх слухачоў на іх роднай мове—ён валодаў шасцю мовамі народнасцей Індыі.

Дзейнасць Кангрэса з гэтага часу характарызуецца актыўнасцю. «Ганди послал нас в деревни, в сельских районах закипела деятельность множества проповедников нового учения о действии. Это всколыхнуло крестьянство, оно начало пробуждаться от своей спячки...». Барацьба вялася пастаянна: «Даже в периоды, когда не проводились кампании гражданского неповиновения, осуществлялась общая линия несотрудничества с британским государственным аппаратом в Индии, хотя это несотрудничество и теряло воинствующий характер».

У 1917 годзе Гандзі праводзіць некалькі саціграхаў у розных раёнах краіны, дабіваецца поспеху, трапляе пад суд. Ён пераконваецца ў эфектыўнасці негвалтоўнай барацьбы на зямлі Індыі. Першая агульнаіндыйская кампанія саціграхі прайшла ў 1919 годзе ў сувязі з увядзеннем закона, які прадугледжваў узмацненне крымінальных пакаранняў за антыўрадавую дзейнасць і пашырэнне паўнамоцтваў паліцыі. Не атрымаўшы адказу на лісты і звароты да віцэ-караля, Гандзі становіцца заснавальнікам «Саюза саціяграхаў», якія кляліся не падпарадкоўвацца гэтаму закону. Сябры «Саюза» пачалі агітацыю, арганізацыю мітынгаў і выпуск улётак. 6 красавіка 1919 года, у дзень увядзення закона, Гандзі абвясціў дзень жалобы—хартал, калі спыняласе дзелавая актыўнасць, закрываліся крамы, работнікі не выходзілі на працу. Але ўтрымаць рух у рамках негвалтоўнасці на гэты раз не ўдаецца, адбываюцца сутыкненні паміж войскамі і насельніцтвам, якія ў Амрытсары заканчваецца расстрэлам дэманстрантаў. Гандзі піша Неру: «Движение нечаянно сошло с правильного пути...».

Адной са складанейшых праблем быў канфесійны падзел індыйскага народа да індуістаў і мусульман, які паспяхова выкарыстоўваўся каланіялістамі. У канцы лістапада 1919 года—упершыню ў гісторыі Індыі—індус Гандзі выбіраецца старшынёй канферэнцыі халіфацкага руху мусульманаў Індыі. Халіфацкі рух уліваецца ў ІНК.

Наступны этап—арганізацыя газеты. Яна пачынае выдавацца ў Ахмадабадзе і атрымлівае назву «Маладая Індыя». Асноўная яе мэта—падрыхтоўка народа да правядзення кампаніі грамадзянскага непадпарадкавання, прапаганда адмаўлення гвалту, выхаванне гонару за гісторыю краіны і яе народа.

Адраджаецца і пераўтвараецца ў пастаянны працэс свадэшы—байкот англійскіх і арганізацыя вытворчасці айчынных тавараў, па сутнасці, стварэнне незалежных ад англійцаў эканамічных структур, якія павінны былі зменшыць цяжкасць наступлення ў шырокай кампаніі непадпарадкавання для індыйскага народа.

Наступны год прыносіць разгортванне кампаніі грамадзянскага непадпарадкавання ў адказ на адмову віцэ-караля прыслухацца да патрабаванняў індыйскіх мусульман не навязваць несправядлівага міру Турцыі. 30 чэрвеня 1920 года, пасля візіту да віцэ-караля дэлегацыі мусульман на чале з Гандзі, мусульманская канферэнцыя ў Алахабадзе прымае рашэнне аб несупрацоўніцтве з англійскімі ўладамі. 1 жніўня Гандзі друкуе адкрыты ліст віцэ-каралю, з якім вяртае ўзнагароды, атрыманыя за ўдзел у вайсковых дзеяннях у Паўднёвай Афрыцы, заклікае на мясцовай канферэнцыі Кангрэса ў Гуджарате да кампаніі несупрацоўніцтва. На пазачарговай сесіі Кангрэса ў пачатку верасня прымаецца рэзалюцыя Гандзі аб пачатку кампаніі. Рэзалюцыя рэкамендавала наступныя формы несупрацоўніцтва:

—адмовіцца ад пасад і ганаровых званняў, пайсці ў адстаўку з пасад у мясцовых органах;

—адмовіцца ад наведвання ўрадавых прыёмаў і ад прысутнасці на афіцыйных цырымоніях;

—не вучыць дзяцей у ангельскіх школах і каледжах;

—паступова перайсці да байкота ангельскіх судоў;

—вайскоўцам, чыноўнікам і працоўным адмаўляцца ад запісу ў рэкруты;

—зняць свае кандыдатуры тым, хто балаціраваўся на выбарах у заканадаўчыя рады;

—выбаршчыкам адмовіцца ад удзелу ў галасаванні за любога кандыдата, які, насуперак рэкамендацыям Кангрэса, стаў бы балаціравацца на выбарах;

—байкатаваць замежныя тавары.

Трыумфам Гандзі стала сесія ІНК у снежні 1920 года ў Нагпуры, якая зацвердзіла і пашырыла рэзалюцыю аб несупрацоўніцтве, азначыўшы яго мяжу—не плаціць падаткі.

Кіраўнікі Кангрэса прыйшлі да высновы, што ва ўмовах Індыі непрымальныя ні палітыка рэформ, ні палітыка гвалтоўнага супраціўлення.

Для арганізацыі кампаніі было вырашана стварыць 150-тысячны корпус добраахвотнікаў. Канчатковая мэта барацьбы была сфармуляваная наступным чынам: самакіраванне («сварадж») у межах імперыі (калі магчыма) і за яе межамі (калі неабходна). Колькасць сяброў Кангрэса хутка дасягнула 10 млн. чалавек.

Кульмінацыя гэтага этапа нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыходзіцца на 1921 год, самы бурлівы і багаты падзеямі. У. Чэрчыль становіцца міністрам па справах калоній, рэпрэсіі ўзмацняюцца. Арыштавалі братоў Алі, вядомых дзеячаў халіфацкага руху. Гандзі сустракаецца з віцэ-каралём, друкуе калектыўны маніфест з патрабаваннямі права на свабоду слова, сходаў і мітынгаў. Рабочы камітэт ІНК прымае адозву аб неабходнасці разглядаць спробы любога індыйца служыць каланізатарам, як накіраваныя супраць нацыі.

У канцы года ІНК паспяхова арганізуе байкот візіта ў Індыю спадкаемца брытанскага прастола прынца Уэльскага. Візіт праваліўся.

Замест звычайнага ўзрушанага, святочнага натоўпу шчаслівых падданых, кронпрынца сустрэлі пустыя вуліцы індыйскіх гарадоў. Нават прадстаўнікі вышэйшых колаў індыйскага грамадства—раджы, магараджы, кампрадорская буржуазія і афшарнікі—не рашаліся дэманстраваць лаяльнасць да вышэйшай імперскай улады. Джавахарлал Неру пісаў: «Аллахабад, когда принц приехал туда, казался городом мертвых, а несколько дней спустя в Калькутте внезапно прекратилась на время вся жизнедеятельность большого города».

Улады вырашылі запалохаць індыйскі народ рэпрэсіямі і абвясцілі корпус добраахвотнікаў па-за законам. Пачаліся масавы арышты. Але індыйцы тысячамі пачалі запісвацца ў добраахвотнікі, самі садзіліся ў турэмныя машыны і збіраліся ля турэмных брамаў. Лічылася, што той, хто не пабываў у тыя дні ў турме, той не патрыёт Індыі.

У снежні 1921 г. збіраецца сесія ІНК у Амрытсары. Гандзі надаюцца паўнамоцтвы поўнасцю кіраваць дзейнасцю партыі з адзінай умовай: не ісці на мір з урадам без згоды Рабочага камітэта. Гандзі прапануе сваю тактыку: паступова павялічваць маштабы руху, пачаўшы з добра арганізаванай кампаніі ў адной, найбольш падрыхтаванай правінцыі.

На фоне масавых рэпрэсій (за два месяцы, (снежань 1921 г.—студзень 1922 г., было арыштавана каля 30 тыс. чалавек) 9 лютага 1922 г. Гандзі накіроўвае ліст-ультыматум віцэ-каралю, у якім дае ўраду 7 дзён для змянення палітыкі.

Каланіяльныя ўлады прызнавалі, што ўжо амаль згубілі кантроль над сітуацыяй у Індыі. Але на гэты раз барацьбе не наканавана было скончыцца перамогай. З-за стыхійных гвалтоўных дзеянняў удзельнікаў руху ў мястэчку Чаўры-Чаўра Гандзі спыняе кампанію. Рух губляе ініцыятыву і перспектыву, рэзка памяншаецца колькасць сяброў Кангрэсу, у яго шэрагах наспеў раскол. Зноў пачасціліся сутыкненні на глебе міжканфесійнай варажнечы. Урэшце арыштоўваюць і кідаюць у турму Гандзі.

Толькі праз шмат гадоў, дзякуючы і гэтаму вопыту першай кампаніі негвалтоўнай нацыянальна-вызваленчай барацьбы, Індыя стала незалежнай і вольнай краінай. Гандзі пашчасціла пабачыць на свае вочы здзяйсненне мэты яго жыцця. Але менш чым праз паўгода ён быў забіты фанатыкам-індусам падчас малітвы.

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**г. Ворша.**

# «ЧОРНАЯ КНІГА» ЗЛАЧЫНСТВАЎ «СОВЕТСКОЙ ВЛАСТИ» НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

**Семінар «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй» працягваецца ў форме надрукавання «ЧОРНАЙ КНІГІ» злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне» і абмеркавання матэрыялаў «ЧОРНАЙ КНІГІ» як на паседжаннях Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» (пляц Волі), так і ў памяшканні рэдакцыі газеты «Выбар» (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх). Запрашаюцца ўсе жадаючыя з супрацьлеглымі поглядамі і інтарэсамі прыняць удзел у абмеркаванні.**

**(Пачатак у №№ 3—13 1994 г.).**

## Сіндром «Віцебскай справы»

Некалькі гадоў назад на экранах кінатэатраў дэманстраваўся дакументальны фільм «Віцебская справа», які складаўся з дзвюх серый: «Злачынства» і «Пакаранне». Цяпер кінематаграфісты могуць рыхтаваць трэцюю серыю. Бо сярод віцебскіх сышчыкаў знайшліся дастойныя прадаўжальнікі той «справы». Але пра ўсё па парадку.

17 снежня 1992 года ў адной з віцебскіх газет у раздзеле «Крымінальная хроніка» з'явіўся артыкул «Не по-соседски как-то...» наступнага зместу: «9 декабря в 11 часов 25 минут в квартире по Московскому проспекту в Витебске обнаружен труп хозяина-пенсионера. Убийство, как установлено, совершил сосед, проживающий с подселением. Что привело к трагедии, предстоит выяснить следствию». Як вынікае з заметкі, мясцовыя «шэрлакі холмсы» слаўна папрацавалі і выкрылі «забойцу» па гарачых слядах: дзевятага снежня знойдзены труп, ужо праз тыдзень—рапарт у мясцовым друку аб паспяховым раскрыцці злачынства. Але сёння зноў можна гаварыць пра сіндром вельмі нашумеўшай у свой час «віцебскай справы»—справы Міхасевіча.

Уладзімір Фёдаравіч Лонь—той самы «сусед-забойца»—прасядзеў у следчым ізалятары амаль чатыры месяцы.

Ён успамінае, што пачалося ўсё з непрыемнага паху, які ішоў з пакоя суседа. Больш як дзесяць год яны пражылі ў суседніх пакоях двухпакаёвай камунальнай кватэры. У апошні час адносіны паміж імі сапраўды былі не зусім суседскімі, што, пэўна, і паслужыла асноўным аргументам для следчых. Прычынай разладу, па словах У. Лоня, стала тое, што сусед па кватэры без узгаднення з ім перагарадзіў свой пакой і пасяліў кватарантак—нейкіх дзяўчат (зразумела, без прапіскі). Але ж Лонь—раўнапраўны гаспадар кватэры.

Прыкладна за два тыдні да здарэння, у двацатых чыслах лістапада 1992 года з У. Лонем здарылася няшчасце—зламаў нагу. Рухацца даводзілася на мыліцах. Кажуць, бяда не прыходзіць адна. Восьмага снежня, вечарам, адчуўшы непрыемны пах з суседняга пакоя, ён пастукаў да суседа ў дзверы. У адказ—мёртвая цішыня. Кватаранткі тады ў суседа ўжо не жылі. Дзверы былі замкнутыя, і Лонь вырашыў, што сусед паехаў да родных у Глыбокае. На наступны дзень непрыемны пах, быццам нешта гніло і смярдзела, узмацніўся. Па ініцыятыве У. Лоня была выклікана міліцыя. Уламаўшы дзверы, выявілі за імі труп гаспадара пакоя ў стадыі разлажэння. Ён ляжаў на падлозе ў лужыне крыві, якая нацякла з разбітай галавы. Невядомы забойца нанёс некалькі ўдараў тупым цвёрдым прадметам па галаве ахвяры.

У той жа дзень, 9 снежня 1992 года, Уладзімір Фёдаравіч Лонь быў дастаўлены ў Першамайскі РАУС—пакуль у якасці сведкі. Ужо знаходзячыся ў зняволенні, ён 21 снежня накіраваў скаргу пракурору Віцебскай вобласці, у якой апісаў тыя здзекі, што чынілі з ім міліцыянты пры першым жа допыце: «9.XII.92 г.около 14-30, я был доставлен в Первомайский РОВД для допроса в качестве свидетеля. Допрос сразу же получил обвинительный уклон и начался с физического насилия, которое было ко мне применено. Неоднократно наносились мне удары по туловищу, голове, сломанной ноге...» Вечарам яго адпусцілі дадому, але наступным днём,зноў даставілі ў РАУС. Кашмар паўтарыўся. У выніку псіхічнага і фізічнага ціску Уладзімір Фёдаравіч вымушаны быў пайсці на самааговор і ўзяць на сябе чужую віну. Вось так за адны суткі віцебскія «шэрлакі холмсы» знайшлі «забойцу». У той жа дзень, 10 снежня, Лонь быў затрыманы і змешчаны чамусьці ў прыёмнік-размеркавальнік, а не ў следчы ізалятар, што з'явілася парушэннем працэсуальнай нормы. У гэтым прыёмніку ён знаходзіўся тыдзень. Па яго словах, ён патрабаваў ад супрацоўнікаў Першамайскага РАУС медыцынскай экспертызы для сябе. На яго патрабаванні ніхто не звяртаў ніякай увагі. Пазней, знаходзячыся ў віцебскім следчым ізалятары, Уладзімір Фёдаравіч не змірыўся са сваім становішчам. На працягу некалькіх месяцаў ён неаднаразова звяртаўся з пісьмовымі скаргамі ў абласную пракуратуру. Яна на яго звароты ніяк не рэагавала. Таму 24 сакавіка 1993 г. ён вымушаны быў звярнуцца да Генеральнага пракурора Беларусі. Як раз у дваццатых чыслах сакавіка быў затрыманы міліцыяй грамадзянін Н. Ён падазраваўся ў іншых злачынствах, але, мабыць нечакана для следчых, прызнаўся і ў тым забойстве, якое «прыпісалі» Уладзіміру Фёдаравічу.

У адрозненне ад некаторых супрацоўнікаў праваахоўных органаў Віцебска, гэты грамадзянін Н. добра засвоіў урокі «славутага Міхасевіча». У 1992—93 гадах ён здзейсніў у Віцебску два забойствы (у тым ліку «прыпісанае»стражамі парадку У. Лоню), акрамя таго—шмат крадзяжоў як з кватэр жыхароў Віцебска, так і з дач у ваколіцах горада. Не маючы пастаяннага месца жыхарства і працы, ён, існуючы за кошт крадзяжоў, два гады абводзіў «вакол пальца» нашу міліцыю, і трапіў у яе рукі, па сутнасці, выпадкова—пасля аднаго з крадзяжоў. У сакавіку 1994 года Віцебскі аблсуд накіраваў яго на стацыянарную экспертызу ў рэспубліканскую псіхбальніцу ў Навінкі...

У. Лонь быў вызвалены са следчага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе. Пракуратура і міліцыя не спяшаліся прызнаваць сваю памылку. Лоня абвінавацілі ў тым, што ён некалі пабіўся з суседам. Быццам нябожчык з таго свету паскардзіўся нашым ахоўнікам закону. Зразумела, што і гэтае абвінавачванне лопнула, як мыльная бурбалка.

29 сакавіка 1993 г. Лонь выйшаў на волю, а 1 красавіка таго ж года пракурор Першамайскага раёна, які ў свой час падпісаў ордэр на арышт бязвіннага чалавека, пачаў крымінальную справу ў адносінах некаторых супрацоўнікаў Першамайскага РАУС. Ды, можа, таму, што гэтая справа была пачата 1 красавіка,ператварылася ў нейкі жарт: роўна праз два месяцы, 1 чэрвеня, памочнік пракурора спыніў крымінальную справу ў адносінах супрацоўнікаў міліцыі з-за адсутнасці ў іх дзеяннях складу злачынства. Але У. Лонь не пагадзіўся з гэтым, і па яго патрабаванні пракуратура пачала ў адносінах тых жа супрацоўнікаў міліцыі новую крымінальную справу. Паколькі першы раз атрымлівалася, што праваахоўныя органы аднаго раёна правяралі самі сябе, хоць і пад кантролем пракуратуры вобласці, цяпер расследаванне даручылі следчаму з Ушач.

Ды і гэта расследаванне закончылася нічым. Бо міліцыя, калі і парушае закон, то стараецца рабіць гэта без лішніх сведак. Калі У. Лоня збівалі міліцыянты і такім чынам прымусілі яго ўзяць на сябе чужую віну (ды не абы-якую, а наўмыснае забойства), то гэтыя міліцыянты ніколі не выдадуць саміх сябе і сваіх сяброў па працы.

«Выбар» праводзіў журналісцкае расследаванне гэтай гісторыі. Але калі ў снежні 1993 года наш карэспандэнт паспрабаваў трапіць на прыём да пракурора вобласці ў прыёмны дзень—аўторак, яму ветліва адмовілі. Сакратар-машыністка сказала, што ён шэф вельмі заняты неадкладнымі справамі. Хоць гэтая «занятасць» не перашкодзіла пракурору прыняць іншых наведвальнікаў у той дзень. Тады рэдакцыя пісьмова звярнулася да пракурора вобласці М. Шахметава з наступнымі пытаннямі:

1. Чаму пракуратура Віцебскай вобласці ніяк не рэагавала на неаднаразовыя звароты У. Лоня?

2. Чаму У. Лонь спачатку быў змешчаны не ў следчы ізалятар, а ў прыёмнік-размеркавальнік? Ці не з'явілася гэта парушэннем працэсуальнай нормы?

3. У сувязі з тым, што справа аб наўмысным забойстве з самага пачатку знаходзілася пад кантролем пракуратуры Першамайскага раёна Віцебска, як Вы ацэньваеце работу супрацоўнікаў гэтай пракуратуры, у прыватнасці былога пракурора раёна В. Праніка (які пайшоў на павышэнне) і старшага следчага пракуратуры раёна Т. Платонавай у гэтым канкрэтным выпадку?

4. Калі прыкладна будзе завершана расследаванне, што вядзецца пад кантролем пракуратуры вобласці ў адносінах супрацоўнікаў Першамайскага РАУС?

5. Наколькі законнымі з'яўляюцца дзеянні Віцебскага гарвыканкама, які, не чакаючы рашэння суда ў адносінах Лоня У. Ф., засяліў у камунальную кватэру, дзе ён пражываў, сям'ю з трох чалавек?

Праз некаторы час рэдакцыя атрымала з абласной пракуратуры бюракратычную адпіску: «...Уголовное дело в отношении сотрудников Первомайского РОВД, которые по заявлению гр-на Лоня В. Ф. применяли к нему незаконные методы ведения следствия, прекращено, поскольку расследованием не представилось возможным установить указываемые Лонем В. Ф. факты, и он не опознал конкретных сотрудников, которые применяли к нему физическое воздействие. Вместе с тем при расследовании уголовного дела об убийстве Шалонько П. Ф. были допущены нарушения уголовно-процессуального закона, за что виновные должностные лица привлечены к дисциплинарной ответственности. Ответ гр-ну Лоню В. Ф. нами дан. Начальник отдела по надзору за следствием в органах прокуратуры старший советник юстиции В. Ю. Морозов».

З пяці пытанняў рэдакцыя «выбіла» ў абласной пракуратуры адказ толькі на адно... Што датычыць «дисциплинарной ответственности»: пракурор раёна, падпісаўшы ордэр на арышт ні ў чым не вінаватага чалавека, атрымаў павышэнне—стаў начальнікам упраўлення юстыцыі аблвыканкама. Следчы пракуратуры, якая вяла следства па справе У. Лоня, абышлася лёгкім спалохам.

Паколькі гэта адбылося ў Віцебску, адразу прыходзіць на ўспамін «справа Міхасевіча» і ўзнікае пытанне: колькі яшчэ патрэбна падобных «справаў», каб некаторыя работнікі праваахоўных органаў адмовіліся ад тэорыі «царыцы доказаў», ад прэзумпцыі вінаватасці? Калі, нарэшце, можна будзе гаварыць пра захаванне элементарных правоў чалавека? Чаму праваахоўныя органы (міліцыя і пракуратура ў нашым выпадку) груба і беспакарана парушаюць іх? Колькі часу будзе працягвацца такі здзек? Гэта залежыць ад кожнага з нас.

Учора—бязвінныя ахвяры савецкай міліцыі, пракуратуры, суда пад час сумна вядомай «справы Міхасевіча». Сёння ў такое ж становішча трапіў Уладзімір Фёдаравіч Лонь. І ў першым, і ў другім выпадку ніхто, па сутнасці, акрамя «казлоў адпушчэння», не панёс адказнасці. Чаго чакаць заўтра?

**А. БУКАЧОЎ.**

## За анекдоты—пад суд

Судовы працэс над У. Падголам, дацэнтам, кандыдатам філасофскіх навук, які працягваўся два месяцы, скончаны 15 красавіка. Адзін з ідэйных натхняльнікаў, арганізатараў і выканаўцаў сустрэчы з дэпутатамі прызнаны вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага палітычнага мітынгу і за гэта мусіць выплаціць 1000 рублёў!

Пад час апошняга судовага паседжання суддзя прад'явіла доказ—касету з відэазапісамі акцыі. На хадайніцтва Падгола прагледзець касету суддзя запытала: «А Вы прынеслі з сабой тэлевізар і відэамагнітафон?!» На жаль, у дапламаце дацэнта гэтай тэхнікі не аказалася, але ён не здаваўся. Пад час судовай спрэчкі ён даказаў, што відэакасета і апісанне яе зместу ў рапарце (1 гадзіна запісу апісвалася на адной старонцы аркуша!) з'яўляюцца фальсіфікацыяй. Падгол даказаў, што была праведзена сустрэча, а не мітынг ці сход. Апошні аргумент суддзі быў такі: «Нават калі Вы правялі акцыю, якая не апісана ў законе, павінны ж Вас падвесці пад які-небудзь артыкул!»

Гэты судовы працэс быў звышарыгінальны. Традыцыйна спрачаюцца той, хто абвінавачвае (пракурор), і той, каго абвінавачваюць. Суддзя ж толькі судзіць іх спрэчку. Тут жа суддзя выступала і ў ролі пракурора. Таму Падгол спрачаўся з суддзёй-пракурорам і задаваў пытанні.

Апошняе яго пытанне было такім: «А калі б на пляцы Волі Вы спявалі песні і расказвалі анекдоты пра ўрад і Вярхоўны Савет, Вы асудзілі б нас?». «Так»,—адказала суддзя.

**У. ЗДЗІЎЛЕНЫ.**

P. S. Усе сябры клуба выбаршчыкаў з нецярплівасцю чакаюць судовага працэсу над Грыбам. Як Вы ведаеце, гэты генерал правёў несанкцыяніраваную сустрэчу з выбаршчыкамі ў Віцебску. Ды яшчэ пад час працоўнага дня.

**Грамадзянскі абавязак кожнага, хто прачытае гэтую газету перадаць яе другому. Калі адзін экземпляр газеты прачытаюць 52 чалавекі, то мы атрымаем 51 тысячу чытачоў, мінавіта такім накладам меркаваўся выпуск газеты 21 красавіка. Не паспелі... Гісторыя яшчэ скажа сваё слова.**

Нашы чытачы памятаюць масавы нумар «Выбара» ад 3 сакавіка гэтага года, дзе па адрасе кіраўнікоў савецкай улады і дэпутатаў было выпушчана некалькі крытычных стрэл... Рэакцыя ўлад была хуткай.

У рэдакцыю з'явіўся следчы пракуратуры Чыгуначнага раёна Жыгуноў і паклаў на стол галоўнага рэдактара павестку аб яўцы да пракурора раёна М. Кашпара на гутарку. Следчы грозна папярэдзіў, што ў выпадку нез'яўлення парушальнік спакою будзе прыведзены прымусова.

14 сакавіка ў пракуратуры Б. Хамайда атрымаў афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона. У гэтым дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца:

**«... В газете «Выбар» № 9 (75) за 1994 год содержатся оскорбительные выражения в адрес Председателя Верховного Совета Республики Беларусь Гриба М. И., Председателя Совета Министров РБ Кебича В. Ф., Витебского горисполкома и депутатов Витебского городского Совета народных депутатов, газеты «Витьбичи».**

**В этом же номере редактируемой Вами газеты безосновательно сообщается о начале массовых незаконных арестов, расстрелах в Республике... ... На основании изложенного и руководствуясь ст. 39 Закона РБ «О прокуратуре Республики Беларусь», официально предупреждаю Вас о недопустимости нарушения ст. 5 Закона СССР «О печати и других средствах массовой информации».**

**При этом также разъясняю, что повторное в течение года нарушение данной статьи может послужить основанием для прекращения выпуска печатного издания...»** Не можа быць абгрунтаваннем, паважаны пракурор, калі цвёрда прытрымлівацца закона, а не прымяняць яго з улікам мясцовых умоў, аглядваючыся на савецкую ўладу. У частцы II артыкула 13 названага Вамі закона, сказана:«Орган, што зарэгістраваў сродак масавай інфармацыі, або суд перапыняе яго выпуск або выданне ў выпадку паўторнага (на працягу года) парушэння патрабаванняў часткі першай артыкула 5 гэтага закона", чаго мы, на наш погляд, не парушылі.

## ДАЛІ ПІНКА ПАД ЗАД САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ

дэпутаты Чыгуначнага райсавета г. Віцебска. На апошнюю сесію з 46 дэпутацкіх жывых душ з'явілася толькі 30. Такім чынам, не з'явіўшыяся народныя выбраннікі недвухсэнсоўна выказалі свае адносіны да савецкай улады і да тых, хто іх туды пасылаў.

Паведамляем, што гэта група з 16 дэпутатаў прынятая у якасці ганаровых сябраў у камітэт па знішчэнню савецкай улады. На пасаду кіраўніка гэтай групы прапанавана кандыдатура дэпутата і журналіста А. Тулбусава, які сістэматычна раскрывае на старонках газеты «Віцьбічы» механізм злачыннага дзеяння савецкай улады.

**Б. БАРЫСАЎ.**

## ЗАВАДАТАР АСУДЖАНЫ

15 лютага гэтага года па ініцыятыве клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» на плошчы Волі была праведзена сустрэча дэпутатаў з выбаршчыкамі горада. 7 красавіка Хамайда за гэтую ініцыятыву быў аштрафаваны на 1000 рублёў. Суддзя народнага суда Кастрычніцкага раёна Бондал прыйшла да высновы, што ён з'яўляецца арганізатарам несанкцыяніраванага мітынгу.

Зараз Хамайда вырашае праблему, дзе знайсці **1000** рублёў і дадаткова да іх 9 мільёнаў па іску І. Авіна.



**Адказны за выпуск**
**Барыс Хамайда**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

210601,
м. Віцебск,
вул. Гогаля, 17.



ТЭЛЕФОНЫ:

**37-28-44** — рэдактар;
**37-35-06** — бухгалтэрыя,

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, лічбаў, прозвішчаў, цытат і іншых звестак, выкарыстаных у публікацыі

Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара

Пры передруку спасылка на "Выбар" абавязковая

Рукапісы не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца

Газета набрана ў камп'ютэрным цэнтры абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна (г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6)

Друк—афсетны
Аб'ём—друк. арк.
Фармат А3
Тыраж—999 экз.
**Дагаворны кошт**
Зак. 2896.